# Голас Радзімы

№ 6 (2096)
9 лютага 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




Фірма «БелаўтаМАЗ» па вытворчасці вялікагрузных аўтамабіляў — адзін з лідэраў рэспубліканскай і ўсесаюзнай прамысловасці. Яе аўтарытэт стаў не толькі ў спажыўцоў нашай краіны, але і ў замежных пакупнікоў. Вось толькі адзін з апошніх фактаў. Нядаўна пасля выстаўкі савецкіх экспартных тавараў у ЗША былі падпісаны кантракты на пастаўку сюды грузавых аўтамашын «БелАЗ» усесаюзным аб'яднаннем «Аўтаэкспарт», фірмай «Глоубл тэкноладжы груп» і карпарацыяй з штата Арызона «Лейк шор». Але на прадпрыемстве лічаць: у час перабудовы больш варта крытычна аналізаваць праблемы, не вырашаныя пакуль задачы, чым захапляцца дасягнутым, перабіраць медалі, калісьці атрыманыя на розных выстаўках і кірмашах. Нарэшце, многія зразумелі, што толькі ў крытычнай атмасферы магчымы прагрэс: і духоўны, і матэрыяльны. Тым больш, што прадукцыя аб'яднання — аўтамашыны «МАЗ», «БелАЗ» пры ўсіх сваіх вартасцях яшчэ патрабуюць удасканалення. Але работнікі «БелаўтаМАЗа» глядзяць у свой заўтрашні дзень з упэўненасцю ва ўласных сілах, даволі выразна ўяўляюць і паслязаўтрашні. Пра гэта добра сведчыць той вялікі поспех, што выпаў на сусветным аўтасалоне ў Парыжы на долю апошняй перспектыўнай распрацоўкі беларускіх аўтамабілебудаўнікоў — «МАЗ-2000».



- Першынец беларускага машынабудавання «МАЗ-205».
- Аператар участка іонна-плазменнага ўмацоўвання інструменту Алена КРАСОЎСКАЯ.
- Ідзе адгрузка аўтамабіляў.

Фота С. КРЫЦКАГА.



КАСМІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

## НА АРБІЦЕ СТАНЦЫЯ «ФОБАС»

Аўтаматычная міжпланетная станцыя «Фобас», якая пераадолела за 200 сутак палёту адлегласць больш як 470 мільёнаў кіламетраў, пераведзена на арбіту штучнага спадарожніка Марса.

Для забеспячэння збліжэння з Марсам была праведзена карэкцыя траекторыі руху станцыі, пасля чаго яна перайшла на траекторыю, якая праходзіць на аддаленні 800 кіламетраў ад паверхні планеты. У адпаведнасці з праграмай палёту, на станцыі была ўключана тармазная рухальная ўстаноўка. Тармажэнне выконвалася аўтаномна з дапамогай бартавой сістэмы кіравання, якая выкарыстоўвае загадзя распрацаваную праграму і даныя аператыўных балістычных разлікаў. У выніку праведзенага манеўра станцыя выйшла на блізкую да разліковай эліптычную арбіту.

У ходзе палёту па гэтай арбіце з борта станцыі будуць праводзіцца комплексныя даследаванні паверхні, атмасферы, плазменнай і магнітнай абалонак планеты.

ВЫНІК ДЭМАКРАТЫЗАЦЫІ

## У ЭФІРЫ ПЕРАШКОД НЯМА

У сувязі з паляпшэннем міжнародных адносін, дэмакратызацыяй нашага грамадства, развіццём публічнасці нядаўна было знята глушэнне заходніх радыёперадач («Нямецкая хваля», «Голас Ізраіля», радыёстанцыі «Свабода» і іншых). Штучныя перашкоды больш не забіваюць эфір. У гутарцы з карэспандэнтам рэспубліканскай газеты «Звязда» міністр сувязі БССР І. Грыцук расказаў:

— На тэрыторыі Беларусі перасталі функцыяніраваць пяць радыёцэнтраў і вызвалілася 89 радыёперадатчыкаў, якія, вобразна кажучы, забяспечвалі ідэалагічную абарону рэспублікі і краіны.

Прыкладна 90 працэнтаў радыёперадатчыкаў будуць выкарыстоўвацца для трансляцыі рэспубліканскіх і цэнтральных праграм у кароткахвалявым дыяпазоне. Безумоўна, слухачы гэта адчуюць: палепшыцца якасць прыёму радыёперадач.

Больш эфектыўна будуць выкарыстоўвацца і мачты. Праз два-тры гады мяркуем увесці ў строй абсталяванне сістэмы «Алтай» — для паляпшэння радыётэлефоннай сувязі.

У нас вызвалілася каля 100 чалавек. У асноўным гэта інжынерна-тэхнічныя работнікі. Але беспрацоўнымі яны не засталіся. Наадварот. Адмена глушэння крыху дапамагла нам ліквідаваць кадравы дэфіцыт. Усе працаўладкаваны на прадпрыемствах сувязі.

НАВІНКА

## БРЭСЦКІЯ КАМП'ЮТЭРЫ

Заўважана: працяглае карыстанне некаторымі відамі айчынных камп'ютэраў адмоўна адбіваецца на зроку, асабліва дзіцячым. Як жа быць? Камп'ютэрызацыя ж нашай школы набрала разбег...

Выйсце знайшлі спецыялісты брэсцкага завода «Цветатрон». Сумесна з мінскімі канструктарамі яны распрацавалі мадэль персанальнага мікракамп'ютэра, які працуе на вадкакрышталічным індыкатары, а ён, як паказваюць выпрабаванні, практычна не шкодзіць зроку.

«Электроніку МК-92» (так назвалі навінку) плануецца пастаўляць не толькі ў школы, арганізацыі, але і ў гандлёву сетку. Як хутка гэта будзе? Пакуль што на «Цветатроне» выпушчана першая доследная партыя персанальных мікракамп'ютэраў. Кожны з іх забяспечаны малагабарытным друкуючым прыстасаваннем. Мадэль здольная рабіць 50 тысяч аперацый у секунду. У электронную памяць апарата закладзена дзесяць гульнявых праграм, у тым ліку і тых, што навучаюць спецыфічнай мове бейсік. Спецыялісты спадзяюцца ў далейшым значна павялічыць колькасць праграм, з тым каб навінка карысталася папулярнасцю ў самага шырокага кола спажыўцоў. Напрыклад, у накідах канструктараў такія праграмы, як «Каталог», «Асабісты сакратар», «Запісная кніжка» і да т. п.

Серыйны выпуск персанальных мікракамп'ютэраў «Электроніка МК-92» калектыў завода «Цветатрон» мае намер ажыццявіць у 1989—1990 гадах.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## ПОЛЬСКІЯ ЎЗНАГАРОДЫ ВУЧОНАГА

20 гадоў паспяхова ажыццяўляецца навукова-тэхнічнае супрацоўніцтва паміж Беларускім політэхнічным інстытутам у Мінску і Політэхнікай горада Беластока ў Польшчы.

У рамках гэтага супрацоўніцтва дацэнт кафедры філасофіі БПІ В. Новікаў 8 гадоў выкладаў філасофію польскім студэнтам, а са старшакурснікамі вёў спецкурс «Філасофскія праблемы развіцця сістэмы «Прырода — грамадства». Па настойлівай просьбе студэнтаў Віктару Мікалаевічу давялося прадоўжыць тэрмін свайго знаходжання ў Польшчы, але ўжо па лініі Міністэрства народнай асветы БССР. Польская грамадскасць і савецкае пасольства ў Польшчы адзначылі В. Новікава шэрагам узнагарод.

З многіх ганаровых знакаў самым дарагім для беларускага вучонага з'яўляецца медаль «За брацкую дапамогу». У Польшчы ён заснаваны ўсяго два гады назад, а яго назва гаворыць сама за сябе. В. Новікаву медаль уручыў маршал Сейма ПНР Раман Маліноўскі.

ЗАДАВАЛЬНЕННЕ ПОПЫТУ

## ГАНДАЛЬ НАПРАМУЮ

У магазіне, які адкрыўся ў вытворчым аб'яднанні «Азот» імя С. Прытыцкага, могуць набыць многія дэфіцытныя тавары рабочыя і служачыя гэтага гродзенскага прадпрыемства. А паступаюць яны сюды ў абмен на экспарт уласнай звышпланавай прадукцыі — у асноўным мінеральных угнаенняў. Праз магазін ужо рэалізавана прыкладна на 700 тысяч рублёў мужчынскага, жаночага і дзіцячага адзення, трыкатажных вырабаў, бытавых тавараў — усяго звыш 60 назваў.

У новых умовах гаспадарання калектыў пачаў рэалізоўваць на практыцы новае права — самастойна выходзіць на знешні рынак. Значную частку прыбытку — а яго атрымана за год звыш 15 мільёнаў рублёў — выкарысталі для сацыяльнага развіцця калектыву, у тым ліку і задавальнення па прынцыпу «тавар на тавар» патрэбнасцей людзей у тых вырабах, якіх яшчэ не хапае. Пакуль выйшлі на кітайскі рынак, але ўжо ў бліжэйшыя месяцы будзе наладжаны безвалютны абмен з партнёрамі са Швецыі, Югаславіі, Польшчы, іншых краін.

Акрамя мінеральных угнаенняў у дробнай расфасоўцы, будзе пастаўляцца таксама антыкаразійны кансервант «Мовіль-2» для апрацоўкі кузаваў легкавых аўтамабіляў, вырабы бытавой хіміі.

КАЛГАСНАЯ ПРАДУКЦЫЯ



Добры прыбытак дае штогод цэх па вытворчасці мясных кансерваў калгаса «Зара» Баранавіцкага раёна. Якасць прадукцыі, якую тут выпрабляюць, выдатная. Працоўны калектыў з'яўляецца пастаянным удзельнікам ВДНГ СССР — галоўнай выстаўкі краіны, атрымаў там шмат узнагарод. А нядаўна калгаснікі адправілі 2 тысячы бляшанак мясных кансерваў і пералічылі 3 тысячы рублёў у адрас Арменіі, насельніцтва якой пацярпела ў час землетрасення.
НА ЗДЫМКУ: работніцы цэха Галіна КОРПІК і Соф'я ДЗЯРКАЧ рыхтуюць калгасную прадукцыю.

ЛЯЧЭБНЫЯ ВОДЫ

## МІНЕРАЛЬНАЕ «МОРА»

На прылаўках магазінаў Гомельшчыны — заўсёды некалькі гатункаў мінеральных вод. Калі раней на бутэльках красаваліся малавядомыя для многіх геаграфічныя назвы краіны, то цяпер пераважаюць мясцовыя — «Гомельская», «Рэчыцкая», «Рагачоўская». Усе гэтыя воды прыраўноўваюцца па сваіх якасцях да славутай «Міргарадскай».

Падлічылі ўсе мясціны, дзе здабываюцца сталова-лячэбныя воды, міжволі прыйдзеш да вываду: пад Гомельшчынай плёскаецца сапраўднае «мора».

«Гомельскую № 1» пачалі «чэрпаць» на тэрыторыі санаторыя чыгуначнікаў. На змену ёй прыйшлі два віды «Рэчыцкай». «Рэчыцкую № 1» бралі ў санаторыі-прафілакторыі аб'яднання «Рэчыцадрэў» і разлівалі на Рэчыцкім вінзаводзе. Пошукі паказалі, што лекавая вада «законсервавана» непасрэдна пад фундаментамі аднаго з цэхаў прадпрыемства. Так з'явілася «Рэчыцкая № 2», якая, дарэчы, на ВДНГ СССР адзначана Дыпломам першай ступені. «Рагачоўская» здабываецца на тэрыторыі санаторыя-прафілакторыя «Прыдняпроўскі», што размешчаны паблізу горада.

РЭСТАЎРАЦЫЯ



Многія гараджане звярнулі ўвагу, што з пастамента любімага мінчанамі фантана ў скверы каля тэатра імя Янкі Купалы знята фігура хлопчыка з лебедзем, а шыльдачка на ме́сяцы гаворыць, што скульптура знаходзіцца на рэстаўрацыі.
Матэрыялу, з якога зроблена скульптура, пагражае поўнае разбурэнне. Таму прынята рашэнне зрабіць дакладную копію кампазіцыі і адліць яе ў бронзе. Гэта работа даручана вопытнаму скульптару Мікалаю Бакуменку. Летам абноўлены фантан зноў заіскрыцца всёлкавымі струменямі.
НА ЗДЫМКУ: скульптар Мікалай БАКУМЕНКА праводзіць абмер кампазіцыі «Хлопчык з лебедзем».

САЦЫЯЛЬНАЯ СФЕРА

## ДЛЯ САСТАРЭЛЫХ І ІНВАЛІДАЎ

У інстытуце «Гроднаграмадзянпраект» заканчваецца распрацоўка праекта 176-кватэрнага дома з малагабарытнымі кватэрамі для адзінокіх удзельнікаў і інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны. Аўтарскі калектыў прапанаваў арыгінальнае планіровачнае вырашэнне будынка, дзе ўсебакова ўлічаны пажаданні састарэлых людзей. У доме будуць адна- і двухпакаёвыя кватэры, 23 з іх — для інвалідаў на калясках. Такія кватэры маюць шырокія калідоры, большую плошчу кухань і санвузлоў. Прадугледжаны і памяшканні сацыяльна-бытавога і культурнага прызначэння.

Будаўніцтва гэтага дома пачнецца сёлета ў мікрараёне Прынёманскі.

БУДЗЕ СВЯТА

## ДЗЕНЬ ГОРАДА

Дзве даты адначасова — 970-годдзе Брэста і 50-годдзе ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР — намячаецца адзначыць сёлета 17 верасня ў рамках спецыяльнага свята «Дзень горада». Рашэнне аб гэтым нядаўна прыняў выканком гарадскога Савета народных дэпутатаў: плануецца правесці самыя разнастайныя мерапрыемствы.

Многія працоўныя прымуць удзел у юбілейных конкурсах на званне «Лепшы па прафесіі». Адбудуцца шматлікія сустрэчы з творчымі калектывамі, прадстаўнікамі інтэлігенцыі.

Своеасаблівым расказам аб гісторыі старажытнага горада стане спецыяльная музейная экспазіцыя. Увагу брэстаўчан і гасцей горада прыцягнуць вялікая фотавыстаўка, а таксама выстаўка-продаж сувеніраў, якія будуць выраблены на прадпрыемствах і ў кааператывах спецыяльна да знамянальных дат.

Вядома, вуліцы і плошчы Брэста значна абновяцца. Акрамя спецыялістаў-дойлідаў, нямала карысная ў гэтым плане змогуць зрабіць усе жыхары горада: намячаюцца масавыя агляды-конкурсы на лепшае ўтрыманне дамоў і двароў.

На вуліцы Савецкай, якая стала пешаходна-гандлёвай, разгорнецца святочны прыбужскі кірмаш. Будзе праведзены Тыдзень беларускай кухні.

АКЦЫЯНЕРНАЕ ТАВАРЫСТВА

## ДЫВІДЭНДЫ—ПА ПРАЦЫ

У праектна-прамысловым будаўнічым аб'яднанні «Гроднажылбуд» ствараецца акцыянернае таварыства.

Гэты факт каменціруе намеснік начальніка прадпрыемства па эканоміцы В. СУРНІН:

— Работнікам аб'яднання будуць прадавацца акцыі на суму ад 500 да 10 тысяч рублёў з гарантыяй дывідэндаў 4 працэнты гадавых, а пры паспяховай рабоце прыбытак можа быць і больш. Заявак на набыццё каштоўных папер ад людзей ужо ёсць нямала. Распаўсюджвацца яны будуць толькі на добраахвотных асновах.

Распаўсюджванне і набыццё акцый — гэта спосаб выкарыстання сродкаў працоўных для расшырэння і развіцця вытворчай базы аб'яднання, укаранення перадавых тэхналогій, арганізацыі вытворчасці новых будаўнічых матэрыялаў. Сродкі ад продажу акцый у калектыве будуць укладвацца таксама ва ўзвядзенне жылля, дамоў адпачынку, дзіцячых дашкольных устаноў.

Якія ж выгады дае набыццё акцый? Немалыя. Галоўнае — іх уладальнікі самі, сваёй працай палепшаць уласны дабрабыт, які залежыць ад прыбыткаў прадпрыемства. Значна ўзрасце ўзровень гаспадарання. Уладальнікі акцый не дазволяць упусту распыляць сродкі, сярод якіх будуць і іх асабістыя ўклады. Такія работнікі стануць сапраўднымі гаспадарамі на вытворчасці. Яны ўжо не пройдуць міма кінутага цвіка, цэглы, цэменту, «забытага» бетоннага блока.

САМАЕ БАЛЮЧАЕ ПЫТАННЕ Ў САВЕЦКІМ ГРАМАДСТВЕ

# РЭФОРМА ЦЭНАЎТВАРЭННЯ

Пытанне цэн сёння, бадай, самае балючае ў савецкім грамадстве. Радавыя спажыўцы і работнікі вытворчасці выказваюць на старонках прэсы, у выступленнях па радыё і тэлебачанні мноства самых розных, часам супярэчлівых меркаванняў. Нават сярод вучоных-эканамістаў няма адзінства ў падыходзе да тых ці іншых аспектаў гэтай праблемы.

Толькі ў адным меркаванні ўсіх супадаюць: сістэму цэнаўтварэння трэба мяняць, і чым хутчэй, тым лепш. Справа ў тым, што эканамічныя законы многія гады парушаліся ў практыцы гаспадарчага жыцця.

На частку тавараў (напрыклад, на паліва, сельскагаспадарчую прадукцыю) дзяржава падтрымлівала цэны ніжэйшыя за іх кошт, выдзяляючы вытворцам шматмільярдныя датацыі. У той жа час прадпрыемствы машынабудаўнічага комплексу часта імкнуліся атрымаць прыбытак не за кошт павышэння эфектыўнасці вытворчасці, а шляхам выкарыстання дарагой сыравіны і паўфабрыкатаў нават там, дзе ў гэтым не было неабходнасці. Зрэшты, іх кіраўнікоў можна зразумець, бо дзейнасць прадпрыемстваў ацэньваецца ў грашовым выражэнні аб'ёмаў вытворчасці.

І ў першым, і ў другім выпадку ўзнікае ненармальнае становішча, пры якім у маштабах усёй эканомікі нават даходы асобных прадпрыемстваў становяцца затратнай катэгорыяй: альбо ў іх уваходзіць велічыня датацый, гэта значыць у рэшце рэшт — вынікаў чужой працы, альбо яны ўтвараюцца не як розніца паміж цаной рэалізацыі і выдаткамі вытворчасці, а ўключаюцца ў цану загадзя, гэта значыць да таго, як прадукт створаны.

Словам, у абодвух выпадках дзейнічае затратны механізм, які пазбаўляе прадпрыемствы стымулаў да развіцця. Менавіта таму на XIX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС было сказана, што без рэформы цэн немагчыма стварыць нармальныя эканамічныя адносіны ў народнай гаспадарцы, стымуляваць навукова-тэхнічны прагрэс і рэсурсазберажэнне, нармалізаваць становішча на рынку.

## ЯКІЯ ПАТРЭБНЫ ЦЭНЫ

Як вядома, у новых умовах гаспадарання адзінай крыніцай эканамічнага, тэхнічнага і сацыяльнага развіцця прадпрыемства становіцца прыбытак. Зарабіць яго можна альбо павышэннем эфектыўнасці сваёй вытворчасці і зніжэннем на гэтай падставе сабекошту прадукцыі, альбо павышэннем эфектыўнасці грамадскай вытворчасці праз асваенне высокаэфектыўнай тэхнікі.

Галоўная ідэя маючай адбыцца рэформы цэнаўтварэння заключаецца ў тым, каб ператварыць цэны ў інструмент, пры дапамозе якога можна будзе пазбавіць механізм гаспадарання ад затратнай арыентацыі, нацэліць як усю савецкую эканоміку, так і асобныя прадпрыемствы на канчатковыя вынікі.

Якія для гэтага патрэбны цэны? Перш за ўсё тыя, што адлюстроўваюць рэальныя эканамічныя працэсы, умовы вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі. У іх фарміраванні будуць прымаць раўнапраўны ўдзел і вытворцы, і спажыўцы.

У адпаведнасці з Законам аб дзяржаўным прадпрыемстве (аб'яднанні) адной з галоўных форм такіх цэн ва ўзаемаадносінах паміж гаспадарчымі арганізацыямі стане дагаворная цана, гэта значыць цана пагаднення паміж вытворцам і спажыўцом. Спачатку дагаворныя цэны будуць устанаўлівацца на тэхніку, якая мае прамога спажыўца. Напрыклад, ткацкія станкі — для лёгкай прамысловасці, сельскагаспадарчыя машыны — для прадпрыемстваў аграпрома і г. д. У далейшым не выключана іх распаўсюджанне і на іншыя віды тавараў.

Цэны яшчэ [illegible] групы будуць складвацца непасрэдна ў працэсе функцыяніравання сацыялістычнага рынку. Яны стануць для вытворцы своеасаблівым сігналам [illegible] стане попыту на тыя ці іншыя [illegible] вырабы, арыенціръам для распрацоўкі планаў і праграм развіцця прадпрыемстваў. Параўноўваючы свае ўласныя затраты на вытворчасць адпаведных тавараў і паслуг з цэнамі рынку, прадпрыемства, кааператыў ці індывідуальны вытворца вызначаюць мэтазгоднасць ці немэтазгоднасць іх вытворчасці. Калі цана акажацца ніжэйшай за затраты прадпрыемства, гэта будзе азначаць, што недзе гэты прадукт вырабляецца з меншымі выдаткамі. Спажывец жа, «галасуючы» сваім рублём за той ці іншы тавар, прызнае тым самым грамадскую неабходнасць затрачанай працы.

Узнікае пытанне (а яго ставяць і вучоныя, і работнікі вытворчасці): ці не прывядуць гэтыя меры да стыхійнага росту цэн, перад якім спажывец акажацца бяспраўным? Вядома, прывядуць, але толькі ў тым выпадку, калі і далей будзе захоўвацца манапольнае становішча вытворцаў на рынку, дзякуючы якому яны могуць дыктаваць спажыўцу завышаныя цэны, атрымліваючы пры гэтым звышпрыбыткі. Менавіта таму рэформа цэнаўтварэння будзе праводзіцца адначасова з перабудовай усіх іншых асноўных блокаў гаспадарчага механізму: пераходам на аптовы гандаль сродкамі вытворчасці і, галоўнае, забеспячэннем умоў для разгортвання сацыялістычнай канкурэнцыі і свабоды выбару ўдзельнікамі эканамічнага жыцця сваіх партнёраў.

## ФУНКЦЫІ ДЗЯРЖАЎНЫХ ОРГАНАЎ

Якая ж роля ў гэтым працэсе адводзіцца Савету Міністраў СССР, Дзяржаўнаму камітэту СССР па цэнах, саюзным міністэрствам і ведамствам, а таксама мясцовым органам улады?

Зусім не другарадная. Узяць хаця б тое ж пытанне выцяснення з рынку манапольных вытворцаў. Разам з дзеяннем эканамічных рычагоў захоўваецца і права дзяржаўных органаў у выпадку неабгрунтаванага ўзнімання прадпрыемствамі цэн на сваю прадукцыю забіраць сумы такога завышэння ў бюджэт. Больш таго, уводзіцца і дадатковае пакаранне: апрача зняцця незаконнага прыбытку парушальнік цэн будзе плаціць у тым жа памеры штраф, гэта значыць дзяржава падвойвае санкцыі.

Дарэчы, элементы такога цэнтралізаванага рэгулявання ўводзяцца ўжо сёння, гэта значыць яшчэ да пачатку цэнавай рэформы. Так, нядаўна, калі ў краіне намецілася тэндэнцыя да росту цэн на некаторыя тавары народнага спажывання, Палітбюро ЦК КПСС даручыла цэнтральным і мясцовым гаспадарчым органам навесці ў гэтым парадак. А цяпер Савет Міністраў СССР прыняў спецыяльную пастанову, каб прыпыніць незаконнае завышэнне цэн.

Акрамя таго, ёсць віды прадукцыі, цэны на якую ў сілу яе асобай эканамічнай і сацыяльнай значнасці павінны пакуль вызначаць толькі дзяржаўныя органы. Гэта — мяса, электраэнергія, нафта і некаторыя іншыя тавары. Ды і пры фарміраванні дагаворных цэн, каб пазбегнуць адвольнага вар'іравання імі, дзяржава будзе ўводзіць на аналагічныя віды вырабаў, што выпускаюцца ў рамках дзяржзаказу, іншыя, гібкія цэны: лімітныя (ад і да), найбольшыя (не вышэй пэўнага ўзроўню), ступеньчатыя (што мяняюцца ў часе) і г. д.

Нарэшце, набліжэнне цэн да грамадска неабходных затрат не азначае адмовы ад такіх уласцівых самой прыродзе сацыялізму датацый, як на адукацыю, ахову здароўя, дапамогі мнагадзетным і малазабяспечаным сем'ям і г. д. Безумоўна, усё гэта робіцца ў кампетэнцыі дзяржаўных органаў.

Зрэшты, ніякай супярэчнасці тут няма. Перабудова ж азначае не толькі эканамічную рэформу, але і сацыяльную пераарыентацыю ўсёй народнай гаспадаркі. А яна магчыма толькі пры аптымальным спалучэнні цэнтралізаванага кіравання з нармальным функцыяніраваннем сацыялістычнага рынку на падставе аб'ектыўных эканамічных законаў.

* * *

[illegible]раход да новага парадку [illegible]міравання цэн, натуральна, запатрабуе пэўнага часу. Рэформа будзе мець шэраг этапаў, кожны з якіх закліканы вырашаць свае задачы. Да канца [illegible]ай пяцігодкі (1986—1990 [illegible] неабходна ў асноўным перайсці на аптовы гандаль сродкамі вытворчасці, зрабіць крок наперад у рэформе крэдытна-фінансавай сістэмы, выправіць найбольш грубыя перакосы ў сістэме аптовых цэн. У наступнай, трынаццатай пяцігодцы намечана завяршыць стварэнне новай сістэмы цэнаўтварэння.

**Валерый ФІЛІПАЎ,**
**кандыдат эканамічных навук.**

# ЛІКВІДУЮЦЦА ВЫНІКІ АВАРЫІ

**Урад Беларускай ССР мяркуе перасяліць жыхароў 20 вёсак Гомельскай і Магілёўскай абласцей у новыя добраўпарадкаваныя пасёлкі. Гэта адна з дадатковых мер па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.**

— Трагічная падзея ў Чарнобылі пакінула глыбокую і незагойную рану на нашай рэспубліцы, — сказаў намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР У. Еўтух. — Будзем шчырымі: вынікі аварыі будуць яшчэ доўга нагадваць пра сябе людзям, якія пакінулі свой родны парог і перасяліліся ў іншыя мясціны. Эвакуіравана каля 25 тысяч чалавек з 107 населеных пунктаў.

Людзям, якія пераехалі на новае месца, адразу ж было прадастаўлена часовае жыллё, працаздольным — работа. На Гомельшчыне, за межамі зоны радыеактыўнага забруджвання, для эвакуіраваных створана 170 новых добраўпарадкаваных сельскіх пасёлкаў.

Зона радыеактыўнага забруджвання цэзіем-137 утрымалася на тэрыторыі 11 раёнаў Гомельскай і 6 раёнаў Магілёўскай абласцей. Яна захапіла 415 населеных пунктаў, дзе пражывае 103 тысячы чалавек. Праводзіцца дэзактывацыя ўсіх жылых, грамадскіх, адміністрацыйных і гаспадарчых будынкаў. Скажу, што ў гэтай зоне ў 1986—1988 гады ўжо праведзена дэзактывацыя 432 населеных пунктаў. Каб не дапускаць распаўсюджвання радыеактыўных забруджванняў, пабудавана 6 пунктаў спецыяльнай апрацоўкі тэхнікі, у гаспадарках і на прадпрыемствах—памывачныя пляцоўкі.

У зоне праведзены цэлы комплекс аграмеліярацыйных і аграхімічных мерапрыемстваў. У прыватнасці, на плошчы 168 тысяч гектараў праведзена заглыбленае ўзорванне, 215 тысяч гектараў сельгасугоддзяў правапнавана.

Асаблівая ўвага надаецца ахове здароўя тых, хто пражывае ў зоне. Усё насельніцтва, якое падлягае дыспансернаму нагляду (171 тысяча чалавек), абследавана і пастаўлена на ўлік.

Пры існуючай ступені забруджання людзі тут могуць пражываць пэўны час без небяспекі для свайго здароўя. Падкрэсліваю: пэўны час. Але калі прынятыя меры не гарантуюць, што чалавек за ўсё сваё жыццё (гэта значыць за 70 гадоў) не атрымае больш 35 бэр, што з'яўляецца міжнародна прынятай нормай дапушчальнай мяжы, то ў такім выпадку больш правільна перасяліць людзей у чыстую зону. Такую работу мы цяпер і праводзім.

У Гомельскай і Магілёўскай абласцях вызначаюцца тыя населеныя пункты, з якіх трэба перасяліць людзей у добраўпарадкаваныя пасёлкі, размешчаныя ў бяспечным месцы. У гэтым годзе для перасяляемых будзе ўзведзена 1 200 кватэр у дамах сядзібнага тыпу з надворнымі пабудовамі.

Справа, зразумела, няпростая. І павінен сказаць, што на пасяджэнні Палітбюро ЦК КПСС нашы беды і просьбы былі разгледжаны з выключным клопатам і вялікай увагай. Пасля гэтага саюзныя органы вырашылі дадаткова вылучыць рэспубліцы для ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі на гэты год 243 мільёны рублёў за кошт дзяржаўных цэнтралізаваных капукладанняў. Выдзяляюцца адпаведныя матэрыяльныя рэсурсы і абсталяванне.

## *ЧАЛАВЕК НА ЗЯМЛІ СВАЁЙ*

**Хто часта адпраўляецца з Масквы ў Мінск і наадварот фірменным поездам «Беларусь», мог прыкмеціць гэтую стройную бляявую дзяўчыну з ветлівай усмешкай. Нібы гасцінная гаспадыня на парозе дома, сустракае праваднік Ала Палойка пасажыраў, з гатоўнасцю прыходзіць на дапамогу, стараецца, каб усім добра і зручна было ў дарозе.**

**...Так ужо склалася ў вёсцы Падлясейкі Баранавіцкага раёна, што мясцовыя жыхары нярэдка шукалі сабе справу на чыгунцы. Многа гадоў працаваў тут і бацька Алы. Мікалай Паўлавіч быў аглядчыкам вагонаў, башмачнікам, старшым па горцы. А яго дачку прыцягвалі паязды, што праносіліся ў невядомыя краі. Калі Ала паступіла ў Мінскае чыгуначнае вучылішча, мама ўздыхнула: нялёгкую прафесію выбрала сабе дачка. Дзяўчына ж радавалася: наперадзе падарожжы...**

**Так, мары аб падарожжы таксама здзейсніліся — пабывала ў многіх гарадах краіны. Як лепшаму праваднiку давяралі Але міжнародныя рэйсы — Прага, Берлін, Варшава. Але ўсё гэта было пазней. Абавязкаў у правадніка нямала. Каб стварыць пасажырам у дарозе камфорт, зрабіць бяспечным іх паездку, трэба валодаць элементамі амаль дванаццаці спецыяльнасцей. Ды і раптоўна сабрацца ў дарогу (як гэта часам бывае ў правадніко́ў) таксама не ўсякаму па сілах. Словам, без любві да справы доўга на такой рабоце не пратрымаешся. Але працуе Ала ўжо амаль дзесяць гадоў. Праца яе неадночы адзначалася кіраўніцтвам. Акрамя таго, Ала Палойка — лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола.**



**НА ЗДЫМКУ: Ала ПАЛОЙКА.**
**Фота Ю. ПАЎЛАВА.**

# ХАЦЕЎ БЫ СКАЗАЦЬ...

Добры дзень, нашы сябры ў Мінску!

Прайшло ўжо даволі многа часу з таго моманту, як мы вярнуліся дамоў. Але вось толькі цяпер сабраліся напісаць вам. Самі разумееце, што, калі доўгі час не быў дома, збіраецца шмат спраў, якія трэба тэрмінова рабіць.

Але мы, вядома, помнім пра вас і хочам перш за ўсё падзякаваць за вашу гасціннасць, якой былі так крануты, за ўсё тое, што вы для нас зрабілі. Мая жонка цяпер расказвае сваім знаёмым аб тым, што ўбачыла ў Беларусі на ўласныя вочы. Гаворыць ім пра тое, што яе, немку, прынялі з павагай, праявілі клопат і аказалі дапамогу. У клініцы, дзе лечаць вочы, урачы ўдзялілі ёй вялікую ўвагу.

Навін у нашым жыцці асаблівых няма. Кожны дзень мы ўспамінаем пра наша двухмесячнае знаходжанне ў Мінску. Хаця мы правялі іх не толькі ў сталіцы рэспублікі, а паездзілі па ўсёй Беларусі. Вы ўжо ведаеце, што мы веруючыя. Таму нас асабліва цікавілі пытанні рэлігіі. У розных мясцінах мы сустракаліся з многімі групамі веруючых. І я яшчэ раз пераканаўся, што сёння ў вашай рэспубліцы дадзена поўная свабода ўсім веруючым і ў Беларусі ніхто не сядзіць у турмах за веру. Ніхто тут не стварае падпольных арганізацый для прапаганды рэлігіі і пропаведзяў Евангелля, таму што гэта можна рабіць зусім адкрыта. Такая шчырая праўда. Хаця ў нас на Захадзе і сёння гавораць і пішуць, што свабода веравызнання ў СССР — усяго толькі прапаганда Гарбачова. Я хацеў бы на ўвесь голас крычаць: «Дарагія сябры! Браты па веры! Не верце гэтаму!» Я смела магу сказаць: той, хто сёння ў нас на Захадзе гаворыць, што ў Савецкім Саюзе няма свабоды для веруючых, проста лжэ. Гавораць жа і пішуць пра гэта ярыя праціўнікі савецкага народа ды тыя, хто на лжывай прапагандзе, на антысавецкіх дыверсіях зарабляе немалыя грошы. Я хацеў бы сказаць усім нашым веруючым суайчыннікам розных веравызнанняў у розных краінах: любіце свой народ і маліцеся за яго сённяшні ўрад і за Міхаіла Гарбачова. Я ведаю, што ў капіталістычных краінах многім не падабаюцца тыя людзі, хто гаворыць праўду. Тут шукаюць такіх журналістаў і такіх людзей, каб з Савецкага Саюза везлі толькі фальшывую інфармацыю пра калючы дрот і ганенні.

Хачу звярнуцца і да ўсіх веруючых на Захадзе. Вы, вядома, помніце, як чыталі многія брашуры з ілжывай антысавецкай прапагандай у 1986 годзе, калі здарылася аварыя на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі? Помніце, як у адной з іх пісалася, што савецкія ўлады ўзялі групу веруючых з турмы, прывезлі ў Чарнобыль у простым адзенні і прымусілі без спецыяльных касцюмаў тушыць рэактар? Ім, нібыта, сказалі, што калі ёсць Бог, то няхай ён ратуе іх. Многія з вас паверылі гэтаму. Многія веруючыя ў ФРГ тады спрабавалі пераканаць мяне, што так і было, але я не згаджаўся і даказваў, што гэта проста зверская прапаганда, скрытая пад уяўным клопатам пра веруючых. Дык вось, дарагія сябры, усе шчыра веруючыя: у мінулым годзе я правёў два месяцы ў Беларусі і многа-многа наведаў цэркваў і малельных дамоў, быў нават непадалёку ад чарнобыль[illegible] зоны. Усюды я распытваў тайна і адкрыта веручых пра [illegible] «злы інцыдэнт», калі савецкія ўлады нібыта сталі «злачынцамі». І дзе б я ні пытаўся пра гэта, усюды веруючыя глядзелі на мяне з вялікім здзіўленнем і гаварылі, што гэта падман вышэйшай маркі. Нават у вёсцы Альшаны, дзе тысячы веруючых, сярод якіх ёсць і такія, хто мае старыя крыўды на ўлады, усе [illegible]ўляліся, хто мог гаварыць такую няпраўду.

Калі нехта падумае, што я пішу ўсё не па ўласнаму жаданню (на Захадзе прынята так гаварыць пра чалавека, чые словы не падабаюцца), то я прасіў бы вас: давайце збяромся разам і паедзем са мной наступны раз у Мінск. Там наведаем цэрквы, і, калі вам хочацца, самі распытвайце пра ўсё веручых і пераконвайцеся. На Захадзе ж ніхто не напіша, што моладзь сабралася ў парку горада Маладзечна з музыкай і спевамі псалмоў і міліцыя іх не чапала, што людзі едуць у поездзе ці аўтобусе, свабодна чытаюць Біблію і іх таксама ніхто не чапае.

Не сакрэт, што Захад заўсёды варожа глядзеў на Расію. Гэтак жа глядзіць і цяпер. Вось ляжыць перада мной рэлігійная кніга на нямецкай мове пра апошнія дні. У ёй змешчана інфармацыя пра стратэгічную зброю ЗША і СССР, хто колькі мае. Выходзіць, што ў СССР усяго больш. Давайце згадзімся, што так яно і ёсць. Дык чаму ж не пачалі вайну? Чаму М. С. Гарбачоў выказаў міралюбівую ініцыятыву па ліквідацыі ўсіх відаў атамных арсеналаў? А Захад зноў рыхтуецца мадэрнізаваць ракеты кароткага радыуса дзеяння. Для чаго і чаму? Калі я жыў у Англіі, то сама Тэтчэр і яе партыя крычалі, каб рускія вывелі войскі з Афганістана. Тут таксама СССР зрабіў крок наперад. А калі ж прыйдзе той час, каб англічане вывелі свае войскі з Ірландыі? Ірландцы хочуць гэтага значна больш, чым афганцы. Дзе ж сёння больш правоў і свабод у чалавека?

Многа можна гаварыць і пісаць пра справядлівасць. У нас на Захадзе сталі вельмі папулярныя словы публічнасць і перабудова. Але я пытаюся яшчэ раз: калі ж гэта рэальная публічнасць і перабудова прыменіцца і ў Англіі, як цяпер у СССР?

**Міхаіл МЕЛЬНІК.**

ФРГ.

---

# ШЧЫРА СПАЧУВАЕМ

Дарагія сябры!

Прабачце, што я не павіншавала вас з Новым годам і не перадала свае самыя найлепшыя пажаданні. Вялікае гора напаткала армян, увесь савецкі народ, нашу Радзіму. Немагчыма ў такі момант жадаць добрага святочнага настрою. Гора Радзімы — гэта таксама наша гора, і мы шчыра спачуваем і падзяляем яго з савецкім народам. Чытала ваш артыкул пра наша знаходжанне ў Мінску. Дзякуй за ўвагу да нас.

**Ангеліна МАСКАЛЕНКА.**

Бельгія.

---

# САМАЯ ВЯЛІКАЯ РАДАСЦЬ

Дарагія сябры!

Я хачу падзяліцца з вамі радаснымі пачуццямі, якія вось ужо паўгода не пакідаюць мяне. Што можа быць больш прыемным для чалавека, чым спатканне з Радзімай? Такое шчасце выпала нам з жонкай сёлета. Вярнуўшыся дамоў, мы жывём успамінамі і абмяркоўваем планы на наступную паездку. А вось нядаўна прыйшоў да нас нумар «Голасу Радзімы», у якім апублікаваны артыкул пра нашу сустрэчу ў Мінску. Напісана ўсё правільна, але ў мяне ўзнікла думка дапоўніць яго і самому расказаць пра тыя незабыўныя дні на Радзіме. Я бачу, што пра мае ўражанні з цікавасцю слухаюць тут людзі. Таму думаю, што і многім нашым землякам у Беларусі будзе цікава прачытаць мае нататкі пра паездку ў родны край.

Чакалі мы гэты дзень доўга, і нарэшце ён настаў. Прызнаюся: калі садзіліся ў самалёт «Аэрафлота» ў Манрэалі, усё яшчэ не верылася, што праз некалькі гадзін мы зможам ступіць на родную зямлю і сустрэцца з дарагімі для нас людзьмі. Ужо з першых мінут у Маскве адчулі, што вельмі многае ў Савецкім Саюзе за тыя чатыры гады з часу нашай апошняй паездкі змянілася. І ўсе гэтыя перамены, на наш погляд, толькі да лепшага.

Можна хаця б сказаць, што ў аэрапорце на розныя фармальнасці затрацілі зусім нямнога часу. Мы адразу ж убачылі, што і абслугоўванне турыстаў стала лепшым. Нас тут жа ў зале сустрэў гід «Інтурыста», пасадзіў у таксі і павёз у другі аэрапорт, адкуль адлятаў самалёт у Мінск. У паветры былі толькі адну гадзіну і пятнаццаць мінут, якія я правёў, не адрываючыся ад ілюмінатара. Дзень быў сонечны і ясны, таму ўнізе добра была відаць родная зямля. Але мне ўсё не верылася, што мы ўжо на Радзіме.

У Мінску нас вельмі ветліва сустрэў гід турыстычнага бюро. Ён узяў на сябе ўсе клопаты з багажом і транспартам. Яшчэ паўгадзіны на аўтамабілі па новай цудоўнай аўтастрадзе, і мы ўехалі ў сталіцу Беларусі горад-герой Мінск. У гасцініцы «Юбілейная» нас ужо чакалі родныя. Мы расхваляваліся да слёз, калі іх убачылі, сваякі ж спецыяльна прыехалі з Барысава, Кіева і Светлагорска, каб сустрэцца з намі. Два тыдні ў Мінску сталі для нас суцэльным святам. Сем сямей маіх родных жывуць у гэтым горадзе. Мы пабывалі ва ўсіх, і каб расказаць пра ўсё падрабязна, спатрэбілася б шмат часу. З многімі роднымі мы не бачыліся сорок пяць гадоў. Нас вельмі парадавала, што ўсе жывуць у добрых кватэрах, маюць работу, спакойныя за будучыню сваіх дзяцей. Раскажу толькі пра адну сустрэчу, якую нельга не ўспомніць. Мы былі ў гасцях у майго пляменніка Мікалая, і ён нечакана паведаміў, што прыехала мая цётка Аксіння Ігнатаўна. Не помню, як я выбег на двор, падхапіў яе на рукі. Мы абдымаліся і цалаваліся, а цётка плакала і ўсё паўтарала, што я ў яе адзіны пляменнічак. Можа, хто-небудзь падумае, што дарэмна я так падрабязна распісваю гэтую сустрэчу. Але справа ў тым, што цётцы маёй споўнілася сто тры гады. Гэта жывая гісторыя нашай сям'і, усяго нашага роду. Колькі рознага давялося перажыць гэтай жанчыне на сваім вяку. І вось жа ў такія свае гады сабралася ў няблізкую дарогу, каб сустрэцца з намі. Нават не магу словамі выказаць усіх сваіх пачуццяў да яе.

Пабывалі мы на богаслужэннях у мінскіх цэрквах. У адзін з дзён было свята Кірыла і Мяфодзія, і мы пайшлі на службу ў сабор Святога духа. Ён даволі вялікі, падзелены на тры алтары. За малымі бакавымі алтарамі правілі службу свяшчэннікі, а каля вялікага сярэдняга чытаў пропаведзь сам Мітрапаліт Мінскі і Беларускі Філарэт. Сабор уразіў нас сваім дарагім убраннем, пазалотай алтара, іконамі. Пабывалі мы і ў царкве Аляксандра Неўскага, якая знаходзіцца на ваенных могілках. Вельмі многа маладых і пажылых, свечы перадаюць адзін аднаму праз плячо, таму што самім падысці і купіць немагчыма, столькі людзей. За мяжой дарэмна думаюць, што веруючых у Са[illegible] Саюзе прыгнятаюць, ш[illegible] толькі старыя адважваюцца хадзіць у царкву.

У нас тут, калі мы вярнуліся, часта пытаюцца аб стане р[illegible] ў СССР. Мясцовыя царкоў[illegible]кі сцвярджаюць, быццам людзі баяцца прызнацца, што веруючыя. Але я сам сведка, што гэта яўная мана, і хачу яшчэ раз сказаць аб гэтым праз вашу газету. Мы былі на Радзіме якраз у той час, калі святкавалася 1000-годдзе хрышчэння Русі. Магу пацвердзіць, што гэтую дату адзначала ўся краіна — і веруючыя, і няверуючыя. Нават кіраўнікі ўрада прымалі кіраўнікоў царквы, што мы на ўласныя вочы маглі бачыць па тэлевізары. Так што гаварыць аб нейкім уціску веруючых проста неразумна.

Акрамя Мінска, мы наведалі Кіеў, Валгаград і Маскву і ўсюды абсалютна свабодна бывалі ў цэрквах.

Асобна хачу расказаць пра самыя шчаслівыя дні нашага знаходжання на Радзіме. Мы мелі магчымасць з'ездзіць у госці да маіх родных у Светлагорск. Гэта не забудзецца ніколі. Павёз нас туды на сваёй машыне мой пляменнік. Па дарозе заязджалі ў маю вёску, дзе я нарадзіўся і дзе прайшло маё дзяцінства. Затаіўшы дыханне прайшоў па могілках, дзе спачываюць родныя мне людзі. У Светлагорску ў мяне тры сястры. Яны ўжо бабулі і прабабкі, так што можаце ўявіць, якая вялікая сям'я сабралася нас сустракаць. Зноў былі абдымкі і слёзы радасці, многа размоў пра жыццё. Што мяне ўразіла, дык гэта тое, што ўсе родныя жывуць у добрых кватэрах. І плата за гэтыя кватэры вельмі нізкая — 18, 21, 22, 23 рублі, у залежнасці ад плошчы. Гэта зімой, а летам напалову танней. Для нас такія цэны проста дзіўныя. Вы, напэўна, не зможаце сабе і ўявіць, якое гэта шчасце праз столькі гадоў стаяць на роднай зямлі сярод сваіх родных і блізкіх. І як цяжка было расставацца. Мы ж усе людзі ўжо ў веку і, можа быць, больш не ўбачымся.

...Каля шасейнай дарогі ўзнёсся бетоннымі стэламі Курган Славы, адсюль пачалася аперацыя «Баграціён», якая скончылася вызваленнем Беларусі. Нам вельмі спадабалася, што людзі стварылі такую добрую традыцыю, калі маладажоны прыязджаюць да помнікаў баявой славы бацькоў і дзядоў і ўскладваюць там кветкі. Трэба сказаць, што мы неяк па-новаму ўспрынялі і палюбілі свой народ за гэтую добрую памяць пра тых, хто загінуў за шчасце цяперашняга пакалення. Мне самому давялося перажыць многія жахі і цяжар вайны, яна і разлучыла мяне з Радзімай. Я бачыў Мінск у руінах. Таму цяпер не магу не захапляцца тым, які прыгожы горад пабудавалі мае суайчыннікі. Колькі тут цудоўных паркаў, сквераў, усе вуліцы патанаюць у зеляніне. Калі хадзіў па горадзе, любаваўся яго прыгажосцю, я ні на мінуту не забываў пра тых катаў, якія ператварылі яго некалі ў руіны. Апякла думка аб тым, што былі гэта не толькі фашысты, але і некаторыя беларусы, што здрадзілі свайму народу. Суцяшае толькі, што гэтыя фашысцкія памагатыя, якія пазбегнулі народнага гневу, не жывуць спакойна. Я з некаторымі з іх знаёмы, ведаю, як яны жывуць. Хіба гэта жыццё, калі да іх начамі прыходзяць мёртвыя і палохаюць сваім крыкам, а цені забітых пастаянна іх праследуюць? Яны гэта заслужылі. І няхай будуць праклятыя за свае злачынствы на ўсе часы.

Вядома, кожны дзень, кожная гадзіна і мінута на Радзіме ў любы час былі б для нас шчасцем. Але нам пашанцавала, што гэта паездка супала з многімі падзеямі, важнымі як для Савецкага Саюза, так і для ўсяго свету. 30 мая мы з хваляваннем уключылі тэлевізар і разам з мільёнамі грамадзян зямлі змаглі назіраць гістарычную падзею — сустрэчу Генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова з прэзідэнтам ЗША Рональдам Рэйганам. Калі мы ўбачылі абмен дакументамі аб ратыфікацыі Дагавора аб скарачэнні ракет сярэдняй і меншай дальнасці, мы былі шчаслівыя. Колькі гадоў чалавецтва накаплівала сродкі ўласнага знішчэння. І вось, нарэшце, пачаўся працэс раззбраення. З людзей пачаў выходзіць страх. Можа быць у будучыні мы ўвогуле зможам жыць без гэтай пастаяннай пагрозы?!

Прабачце мне за тое, што я так многа напісаў. Але ў параўнанні з тым, што я хацеў бы сказаць, гэта дробязь. Мне б хацелася, каб суайчыннікі ў розных краінах зразумелі мае пачуцці. Бо самая вялікая радасць для ўсіх нас — гэта спатканне з Радзімай. Праўда, такая радасць, на жаль, выпадае не часта. Мы вельмі хочам прыехаць у родную Беларусь зноў, чакаем новай сустрэчы.

**Афанасій БАРАВОЙ.**

Канада.

*НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ*

# ЗАСТАВАЎСЯ БЕЛАРУСАМ

## СТАРОНКІ БІЯГРАФІІ І ТВОРЧАСЦІ М. ЗАБЭЙДЫ-СУМІЦКАГА

ІМЯ выдатнага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага магло б прынесці славу кожнаму народу. Яго чароўны голас гучаў на лепшых оперных сцэнах Італіі, у Кітаі, Польшчы, Чэхаславакіі. Яго выступленні па Варшаўскаму радыё трансліравалі Парыж, Лондан, Прага, Нью-Йорк... Артыста параўноўвалі з Леанідам Собінавым, Ціта Скіпам. Быў жа Забэйда-Суміцкі беларусам. Тут была яго Радзіма, якую ён любіў, і, як умеў, служыў ёй, хоць усё жыццё пражыў па-за яе межамі. Ён быў апантаным прапагандыстам беларускай культуры, і школа бельканта, якою ён дасканала валодаў, дапамагла яму перад усім светам раскрыць самабытную прыгажосць нашай народнай песні.

Лепшыя еўрапейскія фірмы неаднойчы выпускалі пласцінкі з запісам твораў сусветнай класікі і песнямі народаў свету (у тым ліку, і беларускіх) у выкананні М. Забэйды. І толькі ў Беларусі, песні якой ён спяваў найчасцей, такіх пласцінак ніколі не было. Імя спевака часам з'яўлялася на старонках рэспубліканскага друку і зноў знікала, хаця ў Беларусі было вельмі многа прыхільнікаў яго таленту. М. Забэйда меў сяброў сярод беларускіх пісьменнікаў, навукоўцаў, дзеячаў культуры, якія перапісваліся з ім, бываючы ў Чэхаславакіі, завітвалі ў яго адзінокі, цесны пакойчык у Вінаградах на Польскай вуліцы, з удзячнасцю і хваляваннем слухалі песні, якія з ахвотай спяваў для іх Міхась Забэйда-Суміцкі.

Так, мы сёння ведаем, што, на жаль, былі ў М. Забэйды памылкі. Можа, толькі аднойчы ў жыцці ўзяў ён фальшывую ноту. А потым усе астатнія дні, гады справай і працай даказваў Радзіме сваю адданасць. І я думаю, маюць рацыю яго сябры і даследчыкі, якія сцвярджаюць, што Забэйда-Суміцкі нідзе і ніколі не здраджваў свайму народу.

Нельга сёння ўявіць рускую культуру без Купрына, Буніна, Шаляпіна. Адбылося ачышчэнне імя Алеся Гаруна, рэабілітаваны Ластоўскі і Лёсік. Забэйда-Суміцкі таксама наша гісторыя, і мы павінны ведаць яе такой, якою яна была.

Гэты артыкул не прэтэндуе на «ісціну ў апошняй інстанцыі». У ім маё ўласнае стаўленне да выдатнага спевака, чалавека чыстага, чулага і безабароннага, дастойнага нашай удзячнасці і нашай спагады. Пішу яго, пазнаёміўшыся з архівам Міхася Забэйды-Суміцкага, яго шматлікімі пісьмамі, прыгадваючы расказы ўсіх, хто яго блізка ведаў, сябраваў з ім, перапісваўся.

Сёння ў нашу культуру вяртаюцца з забыцця мала чутыя дагэтуль імёны пісьменнікаў, вучоных, музыкантаў... Вартае таго, каб стаць вядомым усім, хто любіць і шануе народную песню, высокае мастацтва, і імя Міхася Забэйды-Суміцкага. Як сказаў сам пра сябе спявак, жыццёвы шлях яго быў занадта крамяністым і няпростым. А ці ж гэта не трагедыя? Заўсёды імкнуцца да матчынай зямлі і нават пасля смерці не мець магчымасці злучыцца з ёю? Усё жыццё прапагандаваць на чужыне да самазабыцця шанаваную ім беларускую песню і не мець магчымасці спяваць яе перад тым народам, якому яна належыць?

У АЛЬМАНАХУ «БЕЛАВЕЖА», які выдаецца ў Беластоку Беларускім грамадска-культурным таварыствам, у 1965 годзе былі надрукаваны ўспаміны Міхася Забэйды-Суміцкага «Мастацтва за мір». Пра свае заметкі аўтар сказаў, што «яны мелі служыць толькі Арыяднінай ніткай» для тых, хто захацеў бы напісаць пра яго больш эмацыянальна і шырока.

Добра было б, каб, ухапіўшыся за канец гэтай ніткі, удалося дапоўніць нейкімі новымі дэталямі расказ пра жыццё спевака, паказаць, як, можа, не заўсёды зразумелай, але блізкай і жаданай была яму Савецкая Беларусь. У артыкуле ёсць спасылкі на лісты, адрасаваныя М. Забэйдам у розныя часы Рыгору Шырме, Максіму Танку і краязнаўцу Міколу Плавінскаму з Віцебска.

У адным з лістоў Міхась Забэйда-Суміцкі пісаў: «У Рахманінава ёсць цудоўны раманс «И у меня был край родной», які я спяваў у сваіх канцэртах... Часам бачу ў сне наваколле Шэйпіч, рэчку Зэльвянку, дзе хлопцам купаўся, лавіў рыбу, тапіўся, зімою коўзаўся, слухаў, як трашчыць лёд...

А шаша... у маёй памяці ўстае як шырокі гасцінец, пясчаны, сям-там аброслы муравою, з выбітымі каляінамі, абсаджаны старымі дрэвамі, найчасцей бярозамі. З боку гасцінца ішлі тэлеграфныя слупы з нацягнутым дротам. Гэтыя слупы вельмі мяне прыцягвалі, бо, прыклаўшы да іх вуха, я слухаў прыгожыя гукі. У той час гэта была мая музыка».

З Шэйпічаў, што на Пружаншчыне, была маці Міхася Іванавіча Аляксандра Феліксаўна Суміцкая. Сюды яна і перабралася з двума маленькімі дзецьмі пасля смерці мужа. Бацька Іван Андрэевіч Забэйда быў родам з Несцяровічаў. У выпісцы з метрычнай кнігі пазначана, што 1(14) чэрвеня 1900 года ў Несцяровічах нарадзіўся іх сын Міхась. Бацька памёр, калі хлоп[illegible] было ўсяго паўтара года. Жыць н[illegible]елі з чаго, і маці наймалася парабчанкай, каб пракарміць дзяцей. «Цяжкім было дзяцінства малога Міхаські, але ён меў вялікую цягу да навукі,—і цяпер успамінаюць у Шэйпічах людзі, якія а[illegible]тарэйшых чулі, а мо хто і сам ведаў [illegible]го славутага земляка.— Каб зарабіць на сшыткі і чарніла, бегаў да пана капаць бульбу і стараўся не адстаць ад дарослых. Пачалася імперыялістычная вайна. Вёска апусцела. Сям'я Забэйдаў выехала ў Расію ў бежанства, як тады гаварылі».

Захавалася пасведчанне, выдадзенае ў жніўні 1915 года, у якім гаворыцца, што «прад'яўніца яго сялянка Гродзенскай губерні Свіслацкай воласці А. Ф. Забэйда выехала з сям'ёй тры душы па ваенных абставінах. Сродкаў да жыцця не мае». Дастатак у сям'і, дзе нарадзілася сямёра дзяцей, а ў жывых застаўся адзін Міхась, заўсёды быў надзвычай сціплым, але маці разумела, як цяжка чалавеку непісьменнаму, і гатова была аддаць апошняе, каб сын вырас адукаваным. Міхась у маленстве вучыўся па хатах у дарэктараў, скончыў спачатку царкоўнапрыходскую школу ў Галоўчыцах, а потым Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. У Харбінскім універсітэце, у Кітаі, куды трапіў падчас бежанства, адолеў эканамічны факультэт, але не знайшоў у гэтым свайго прызвання. Яго вабіла мастацтва.

Добра спяваў і наогул надзвычай здольным чалавекам быў бацька Міхася Іванавіча. Адметны голас, «мяккі, аксамітны», як успамінаў удзячны сын, мела Аляксандра Феліксаўна. Ад яе, самага дарагога праз усё жыццё чалавека, пераняў ён нязгасную любоў да народнай песні. Песня стала мовай і лёсам яе сына. І на ўсё жыццё захавалася іх шчырая духоўная блізкасць. Пазней, ужо ў сталым узросце, Міхась Забэйда да свайго прозвішча дадаў дзявочае прозвішча маці.

«Я бачыў, як яе часта крыўдзілі, а заступіцца за нас не было каму,— пісаў Міхась Іванавіч у сваіх успамінах.— Калі яна плакала, і я плакаў з ёю. Каб мяне суцешыць, яна пачынала спяваць. Я пераставаў плакаць і пачынаў ёй падцягваць. І так у песні мы вылівалі сваё гора».

З маленства Міхась спяваў у дзіцячым школьным хоры салістам, спяваў у царкве, на вяселлях. Малым навучыўся іграць на балалайцы, мандаліне, гітары і нават на скрыпцы...

У ХАРБІНЕ яго настаўніцай стала прафесар Ю. Плотніцкая, у мінулым партнёрка славутага Шаляпіна. Аднойчы Юлія Канстанцінаўна сказала любімаму вучню (ёй было тады амаль 80 гадоў): «Толькі вам, мілы, я хачу перадаць усё тое, што ведаю і на што здольная, бо не хачу, каб усё гэта сышло са мной у магілу».

У Харбінскай оперы адбыўся дэбют Міхася Забэйды, дзе ён за два тыдні падрыхтаваў партыю Ленскага ў оперы Чайкоўскага «Яўгеній Анегін». Адбыўся паспяхова. З 1929 па 1932 год у гэтым тэатры малады артыст праспяваў 15 тэнаровых партый і стаў папулярным сярод слухачоў. Але ён разумеў, што яшчэ не дасягнуў вяршыні выканаўчага майстэрства, хацелася вучыцца далей, і жаданай, запаветнай мэтай становіцца Італія, Мілан. Да таго ж, гэта краіна была найбольш спрыяльным месцам для таго, каб папраўіць падарванае цяжкай працай і спадчыннай хваробай здароўе.

У газеце «Новости Востока» ад 27 верасня 1932 года было змешчана інтэрв'ю Міхася Забэйды, у якім ён гаварыў, што ў Італіі аддасць сваю энергію і працу, каб набыць вопыт і дасягнуць таго, чаго яму не хапае. «Пасля заканчэння адукацыі (гледзячы на абставіны) я вярнуся ў Харбін або паеду ў Савецкі Саюз, дзе веды і вопыт знойдуць сваё прымяненне».

І яшчэ, гаварыў М. Забэйда, у яго пыталіся, чаму ён не даў развітальнага канцэрта. «Прызнаюся адкрыта, адказаў ён, што не хацеў рабіць замах на кішэню і без таго збяднелага пасля паводкі насельніцтва».

У гэтым невялікім урывачку з інтэрв'ю мне здаюцца цікавымі два моманты. Першы: Міхась Забэйда ў кароткі час стаў вельмі папулярным спеваком. Оперныя спектаклі з яго ўдзелам праходзілі пры поўных залах, пра што сведчаць шматлікія водгукі ў харбінскіх газетах, рэцэнзіі на кожную новую, падрыхтаваную ім партыю.

І другі момант: пасля стажыроўкі ў Мілане М. Забэйда меў намер прыехаць працаваць у Савецкі Саюз. Сваю прыхільнасць да Саветаў ён выказаў ужо тады, калі, апынуўшыся ў Смаленску, у 1917 годзе ўдзельнічаў у дэманстрацыях, разам з усімі хадзіў па вуліцах, насіў плакаты з рэвалюцыйнымі лозунгамі, патрабаваў: «Далоў цара!». Потым, калі працаваў настаўнікам у школе на станцыі Пагранічная, прымаў удз[illegible] неафіцыйнай забастоўцы ў падтрым[illegible] Савецкага Саюза ў сувязі з канфліктам на Кітайскай усходняй чыгунцы, за што быў пазбаўлены заработнай платы і вымушаны шукаць новае месца...

Вучоба і работа ў Мілане [illegible]ходзілі вельмі паспяхова. Зноў Міха[illegible]абэйду пашанцавала на настаўніка. З ім пачаў займацца выдатны майстар, які ў свой час выступаў з Энрыка Каруза і іншымі славутымі спевакамі,— Фернанда Карпі. Прыхільнасць і захапленне былі ўзаемнымі. Фернанда Карпі гаварыў, што, каб італьянцы мелі такую працаздольнасць, якая была ў М. Забэйды, яны б заваявалі ўвесь свет.

А працаздольнасць, добрасумленнасць і скрупулёзнасць былі ў гэтага чалавека сапраўды надзвычайныя. «Каб нешта заспяваць, расказваў пра сябе М. Забэйда, я так доўга над гэтым працую, так доўга гэтым жыву, што потым цяжка распазнаць, дзе спявак, а дзе кампазітар, бо кампазітар, калі спяваю, ажывае ўва мне. Тое самае і з народнай песняй. Ёсць лепшыя галасы, большыя таленты, але мала хто працуе столькі, колькі працую я».

Гады ў Італіі праляцелі хутка і адзначаны вялікімі поспехамі ў артыстычнай кар'еры Міхася Забэйды-Суміцкага. Вельмі станоўчай была крытыка на ўсе яго выступленні. Італьянскія газеты пісалі, што ў Забэйды адразу адчуваецца пяшчотная душа славянскага мроючага паэта. Яго называлі тэнарам надзвычайнай якасці, артыстам высокай культуры, які мае прыгожы, мяккі, чысты голас. Саліста Міланскай каралеўскай оперы Міхася Забэйду называлі еўрапейскай славай. У Мілане ён сустрэўся з Леанідам Собінавым, які даў яму свой адрас і запрасіў: «Удасканальвайцеся і прыязджайце да нас у Маскву».

АЛЕ ЎСЁ склалася інакш... Вярнуўшыся з бежанства, самотна жыла ў Шэйпічах маці. Сын, канешне, прысылаў ёй лісты, фатаграфіі. На адной з іх, напрыклад, прысвячэнне: «Харбін. 1924 год. На памяць ад Мішы. Каб менш сумавала». Але ж яна столькі гадоў не бачыла свайго Мішу і не сумаваць па ім ужо не магла. З Шэйпічаў у Італію прыходзіць вестка, што Аляксандра Феліксаўна моцна захварэла і хоча бачыць сына. Ён кідае ўсё і едзе да маці.

Праз многа гадоў, расказваючы пра гэту сустрэчу, Міхась Забэйда-Суміцкі пісаў: «...Ружаны! Там быў мой першы канцэрт, калі я вярнуўся з Італіі. Тады першы раз мяне чула мая маці. Не бачыла яна мяне амаль 20 год. І вось калі дайшла чарга па праграме да «Калыханкі», я звярнуўся да слухачоў і сказаў: «У свой час гэту «Калыханку» спявала мне мая маці, якая сядзіць між вамі. Цяпер гэту «Калыханку» я прысвячаю ёй».

Калі я адспяваў, усе захацелі яе бачыць і так доўга апладзіравалі, пакуль яна не выйшла да мяне на сцэну. Плакала ад шчасця... І цяпер на сваіх канцэртах гэту «Калыханку» спяваю і кажу слухачам, што прысвячаю яе сваёй маці, якая дала мне ўсё тое добрае, што магу даваць людзям»...

На сезон 1935—1936 гадоў Міхась Забэйда заключыў кантракт з Пазнанскай операй. Адсюль было ўжо не так далёка да маці. І ён часта прыязджаў у Шэйпічы, выступаў з беларускімі песнямі перад землякамі. На канцэрты звычайна збіралася ўся вёска. Яго вельмі любілі дзеці, першымі абвяшчалі аб прыездзе Міхася Іванавіча. Ён заўсёды вёз ім цукеркі, якія раздавала маці. Надта ж любіў дзяцей і Міхась Забэйда. На жаль, чужых, бо ніколі не меў сваёй сям'і.



«А я ўсё астаюся пустацветам,— пісаў ён з сумам у 1974 годзе.— Усё аддаў песні, а песню аддаў і аддаю людзям, якіх люблю (асабліва дзяцей). Жыву каля парку. Там цяпер зялёны рай. І дзяцей там вельмі многа. З імі ў мяне дружба...»

Жыццё і асабліва праца ў Познані былі для Міхася Забэйды пакутлівымі. Спяваць дазвалялася толькі па-польску. Беларуская мова, песня, само паняцце «Беларусь» не прызнаваліся, забараняліся, караліся. Забэйда ж ніколі не ўтойваў, што ён беларус, і не адракаўся ад народа, з якога выйшаў. Дарэчы, у яго архіве захоўваецца ваенная кніжка. Месцам свайго нараджэння спявак называе Польшчу, але ў графе «народнасць» піша — беларуская, «родная мова» — таксама беларуская.

З Познані Міхась Забэйда праз год пераязджае ў Варшаву, дзе, выступаючы па радыё, у канцэртах, разам з вядомымі класічнымі творамі ўсё часцей спявае беларускія народныя песні. Ён быў, бадай, першым, хто ўзвёў наш песенны фальклор на сусветныя падмосткі. Рыгор Шырма, гаворачы аб грамадзянскім учынку Забэйды-Суміцкага, пісаў, што да яго людзі чулі беларускую песню толькі няўмела пяяную галасамі вяскоўцаў, але і тады яна хараством сваім здзіўляла слухачоў. У выкананні ж найвыдатнейшага мастака беларускія народныя песні раскрылі перад усім культурным светам музычнае багацце нашага народа.

Беларуская песня ў выкананні М. Забэйды даходзіла да сэрца народа, знаходзячы ў ім гарачы водгук, абуджала нацыянальныя пачуцці, гаіла душэўныя раны спакутаванага і пагарджанага беларуса. У 1938 годзе карэспандэнт адной з віленскіх беларускіх газет пісаў, як яму сяляне ў вёсцы расказвалі, што, калі трапіла да іх плітка (пласцінка) з «Лявоніхай» у выкананні Забэйды-Суміцкага, слухаць яе сабраліся ўсе. Старыя плакалі, чуючы гэту сваю песню ў такім мастацкім выкананні. Маладыя зарэагавалі так, што адразу вывучылі яе на памяць. Яе слухалі так часта, што праз некалькі тыдняў пласцінка была непрыдатная для карыстання.

**НА ЗДЫМКУ: М. ЗАБЭЙДА—СУМІЦКІ з маці Аляксандрай Феліксаўнай.**

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

**(Заканчэнне будзе).**

## Анатоль АНІКЕЙЧЫК

**Беларускае савецкае мастацтва панесла цяжкую страту. 3 лютага 1989 года раптоўна памёр член КПСС, народны мастак БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, дэпутат Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, вядомы скульптар і педагог Анатоль Аляксандравіч Анікейчык.**

**А. Анікейчык нарадзіўся 11 ліпеня 1932 года ў г. Барысаве Мінскай вобласці. У 1959 годзе закончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут і актыўна ўключыўся ў творчую дзейнасць, заявіўшы аб сабе як таленавіты, самабытны і арыгінальны майстар.**

**Творчасць А. Анікейчыка — прыкметная вяха ў гісторыі беларускай манументальнай і станковай пластыкі. Гераічная аснова, высокая грамадзянскасць, рамантычны пафас, вострае адчуванне сучаснасці — неад'емныя якасці яго лепшых скульптурных работ.**

**Ён з'яўляецца адным з аўтараў помніка У. І. Леніну ў г. Барысаве, мемарыяльнага комплексу «Прарыў» у г. п. Ушачы, прысвечанага неўміручаму подзвігу беларускіх партызан, помнікаў народнаму паэту БССР Янку Купалу ў Мінску і ў Араў-парку пад Нью-Йоркам.**

**Сярод створанага ім — мемарыял памяці ахвяр фашызму ў в. Шунёўка на Віцебшчыне, мемарыяльныя знакі ў гонар Мінскага партыйнага падполля, помнікі М. Гастэлу, Ф. Дзяржынскаму, станковыя і манументальныя работы, якія адлюстроўваюць велічнасць слаўных перамог савецкага народа, багаты духоўны свет чалавека.**

**Многа сіл А. Анікейчык аддаў педагагічнай дзейнасці. Працуючы загадчыкам кафедры, прафесарам Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, ён выхаваў не адно пакаленне мастакоў. Педагагічны талент, метадычнае майстэрства, шырыня эрудыцыі дазвалялі яму паспяхова фарміраваць у моладзі неабходныя прафесіянальныя якасці, высокую грамадзянскасць, актыўную жыццёвую пазіцыю.**

**Разам з творчай і педагагічнай работай Анатоль Анікейчык вёў актыўную грамадскую дзейнасць. Ён выбіраўся сакратаром праўлення Саюза мастакоў БССР, членам праўлення Саюза мастакоў СССР, з'яўляўся членам Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры, членам праўлення Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі.**

**Заслугі А. Анікейчыка ў развіцці выяўленчага мастацтва адзначаны ордэнамі Дружбы народаў, «Знак Пашаны», медалямі і Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР.**

**Светлая памяць аб мастаку-камуністу, педагогу, добрым і чулым таварышу назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах, гаворыцца ў некралогу, падпісаным кіраўнікамі партыі і ўрада БССР, дзеячамі культуры.**

## ТВОРЧЫ ВЕЧАР ПРАЗАІКА

Адзін з апошніх вечароў у Доме літаратара быў прысвечаны прэм'еры другой кнігі прозы Уладзіміра Арлова «Дзень, калі ўпала страла», якая выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў канцы мінулага года. Пра творчасць маладога празаіка гаварылі вядучы вечара Янка Брыль, а таксама Фёдар Янкоўскі і Рыгор Барадулін. Урыўкі з твораў У. Арлова прачыталі артысты мінскіх тэатраў. Сябар і зямляк маладога пісьменніка — Сяргей Сокалаў-Воюш праспяваў на вечары свае гістарычныя песні-балады. На вечары прысутнічала шмат моладзі. У ліку яе і прадстаўнікі нефармальных суполак.

Вечар стаў таксама своеасаблівай прэм'ерай твораў У. Арлова, якія яшчэ толькі рыхтуюцца да друку. Гэта была прачытаная па просьбе прысутных нізка вершаў у прозе. Акрамя таго, пісьменнік адказаў на шматлікія пытанні, у якіх закраналіся не толькі творчыя, але і сацыяльныя праблемы.

## ПРЭМ'ЕРА ФІЛЬМА

У рэспубліканскім Доме кіно ў Кіеве адбыўся дабратворны вечар, усе сродкі ад якога будуць пералічаны ў фонд дапамогі пацярпеўшым ад землетрасення ў Арменіі. Ён быў прымеркаваны да сустрэчы маладых кінематаграфістаў сацыялістычных краін.

Гледачы пазнаёміліся з шэрагам работ савецкіх і зарубежных кінематаграфістаў. Высокую ацэнку атрымала публіцыстычная стужка беларускага рэжысёра Уладзіміра Дзяругіна «На чыгунцы», у якой узнімаюцца экалагічныя праблемы.

### *Ф. СКАРЫНА І МЕДЫЦЫНА ЯГО ЧАСОЎ*

# ДОКТАР У ЛЕКАРСКІХ НАВУКАХ

**(Заканчэнне. Пачатак у № 5).**

Але вернемся да дзейнасці Ф. Скарыны. Вядома, што ў 1530 годзе ён знаходзіўся ў Кёнігсбергу ў рэзідэнцыі прускага герцага Альбрэхта Гогенцолерна. Гісторык К. Фарстройтэр меркаваў, што першадрукар знаходзіўся на службе ў герцага як урач у сувязі з эпідэміямі, але крыніцамі гэта меркаванне не пацвердзіў. Неўзабаве Ф. Скарына вярнуўся ў Вільню.

К 1532 году Ф. Скарына быў сакратаром і хатнім урачом віленскага епіскапа. Заслугоўвае ўвагі адзін эпізод з жыцця ўрачоў у Вільні, да якога непасрэдна мае дачыненне Ф. Скарына. Справа ў тым, што ў гэты горад паміж 1510 і 1525 гадамі прыязджаў вядомы швейцарскі рэфарматар медыцыны Філіп Аурэол Тэафраст Бомбаст фон Гогенгейм (1493—1541), вядомы пад іменем Парацэльса. Такі дзёрзкі псеўданім азначаў «нароўні з Цэльсам» — славутым урачом старажытнасці. Парацэльс настойваў на неабходнасці абнаўлення медыцынскай тэорыі, адмовы ад дагматычнага прытрымлівання старажытных канонаў.

У Вялікім княстве Літоўскім, як і ў іншых мясцовасцях, Парацэльс вывучаў тутэйшыя лекавыя сродкі і пераймаў тутэйшыя лячэбныя прыёмы. Вучоны падкрэсліваў, што сярод яго вучняў было нямала «палякаў», гэта значыць жыхароў Рэчы Паспалітай. Дата прыбыцця Парацэльса ў Літву і Беларусь застаецца вельмі прыблізнай. Да 1520 года ён служыў лекарам у дацкай арміі, што ваявала супраць шведаў, а 1525 год застае яго ў Італіі. За пяць гадоў паміж гэтымі датамі Парацэльс наведаў, акрамя Вялікага княства Літоўскага, Польшчу, Прусію, Венгрыю, Валахію (цяпер частка Румыніі), Харватыю.

У гэты час вучоны свет яшчэ мала ведаў Парацэльса. Тым не менш вандроўны ўрач усюды, дзе бываў, выклікаў на публічныя дыспуты мясцовых урачоў і ў спрэчках з імі адстойваў свае наватарскія погляды.

Як і ў родных мясцінах, Парацэльс у Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім удзельнічаў у дыспутах з прыхільнікамі традыцыйнай медыцыны і цярпеў тут паражэнні. Ён успамінаў у 1528 годзе, што гэтыя медыкі атрымалі над ім у Данцыгу (Гданьску) і Вільні перамогу з трыумфам і выгналі з Літвы, Прусіі і Польшчы.

Хто ўдзельнічаў у спрэчках з Парацэльсам? Пратакол дыспуту не захаваўся. Дакладна назваць імёны дыспутантаў немагчыма. Але ёсць адна версія. Ф. Скарына, які жыў у Вільні ў тыя гады, калі яе наведаў Парацэльс, [illegible]мог не ведаць ні аб прые[illegible] гэтага ўрача ў параўнальна невялікі горад, якой была Вільня, ні пра дыспут. У сталіцы Вялікага княства Літоўскага было нямнога ўрачоў, а дыс[illegible]ты тут не былі частай з'ява[illegible]/стрэча Ф. Скарыны і Па[illegible]цэльса перарастае звычайную цікавасць гістарычнага супадзення. Яна становіцца своеасаблівым сімвалам эпохі. Сама спрэчка вялася на прынцыпова новых падставах — не на бясконцым тлумачэнні дагматаў, а на ўвядзенні зусім новага — доследнага — падыходу да медыцыны. Гэтая спрэчка магла зрабіць уплыў на фарміраванне Францыска Скарыны як вучонага.

Акалічнасці прымусілі Ф. Скарыну ў сярэдзіне 1530-х гадоў пераехаць у Прагу, дзе ён працаваў у каралеўскім батанічным садзе і памёр каля 1551 года.

У Празе маглі яшчэ раз перакрыжавацца шляхі яго і Парацэльса. У канцы 1530-х гадоў шлях Парацэльса ляжаў з Вроцлава (Брэслау) у Вену праз Прагу. Нельга выключыць, што там магла адбыцца яшчэ адна сустрэча двух «гігантаў вучонасці, духу і характару» (так называў Ф. Энгельс шэраг выдатных дзеячаў эпохі Рэнесанса і Рэфармацыі).

Аб дзейнасці Ф. Скарыны ў якасці прыдворнага батаніка вядома з адзінага чэшскага дакумента — копіі ахоўнай граматы, выдадзенай 29 студзеня 1552 года каралём сыну Ф. Скарыны Сімяону і ўпершыню правільна вытлумачанай А. Фларойскім. Гэта запіс у так званым «рэгістры» — кнізе выходных папер прыдворнай канцылярыі. Яна захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве ЧССР у Празе, дзе яе скапіраваў А. Федзінец.

У граматы, якая зацвярджае спадчынныя правы Сімяона на валоданне сядзібай, маёмасцю і каштоўнасцямі бацькі, напісана: «Некалі доктар Францішак Рус Скарына з Полацка, садоўнік наш, у гэтым каралеўстве Чэшскім чужаземец, з гэтага свету пайшоў і пасля сябе сына Сімяона руса (...) пакінуў».

Меркаванне некаторых аўтараў, быццам Ф. Скарына быў прафесарам батанікі і лякарстваззнаўства ў Пражскім універсітэце, а каралеўскі батанічны сад у Празе быццам бы быў састаўной часткай медыцынскага факультэта універсітэта, дакументальна не пацвярджаецца. Менавіта гэты факультэт наведвала менш за ўсё слухачоў з ліку студэнтаў. А іх навучанне, якое, як і ў іншых універсітэтах, заключалася ў каменціраванні твораў Авіцэны, займаўся ў названы час адзін прафесар, пры ўсім вядома, што ён быў лейб-медыкам чэшскага караля, а не каралеўскім садоўнікам. Каралеўскі ж сад быў самастойным і ў склад універсітэта не ўваходзіў.

Ф. Скарына сцвярджаў роўнасць людзей перад законам, марыў аб усеагульнай эканамічнай роўнасці, прызнаючы разам з тым асновы феадальнага парадку. Ён ускладаў надзеі на канчатковую перамогу духу і чалавекалюбства над злом. Ф. Скарына ўвасобіў у сабе дваісты характар ранняга асветніцтва. Элементы новага, рацыянальнага мыслення спалучаліся ў яго з рэлігійна-схаластычным светапоглядам, а пафас доследнага вывучэння прыроды з піетэтам у адносінах да Бібліі.

Аб палітычнай пазіцыі Ф. Скарыны можна сказаць тое, што Ф. Энгельс пісаў аб адным з прагрэсіўных дзеячаў сялянскай вайны 1525 года ў Германіі, яго сучасніку Вендэлі Гіплеры: «З усіх правадыроў руху Вендэль Гіплер найбольш правільна разумеў існуючае становішча рэчаў. Ён не быў ні рэвалюцыянерам з шырокім кругаглядам, як Мюнцэр, ні прадстаўніком сялян, як Мецлер і Рорбах. Яго шматбаковы вопыт і практычнае веданне становішча, якое займалі асобныя саслоўі ў адносінах адзін да аднаго, не дазвалялі яму зрабіцца выразнікам інтарэсаў якога-небудзь аднаго з саслоўяў, якія ўдзельнічалі ў руху, у процівагу другім (...). Вендэль Гіплер, прадстаўнік, так сказаць, сярэдняй раўнадзейнай усіх прагрэсіўных элементаў нацыі, прыйшоў да прадчування сучаснага буржуазнага грамадства».

Што тычыцца медыка-біялагічных поглядаў Ф. Скарыны, то тут усё не так проста, як гэтага хацелася б. Непасрэдных крыніц па гэтаму пытанню мы пакуль не маем. Да нас не дайшлі медыцынскія творы ні Ф. Скарыны, ні яго некалькіх землякоў-урачоў — ураджэнцаў Вялікага княства Літоўскага XVI стагоддзя — Томаса «з Літвы», Георгія Пяткуніуса (Пяткевіча) з Эйшышак, Васіля Гіяцын[illegible] Банавентуры з Вільні.

Сцвярджаць, як гэта іншы раз робяць, толькі на падставе некалькіх упамінанняў у прадмо[illegible] і пасляслоўях Ф. Ска[illegible] аб кнігах як аб «лякарств[illegible] душэўным і цялесным», аб «немачах» і «здароўі», аб звярах, птушках, рыбах і пчолах, быццам бы першадрукар гэтым «актыўна прапагандаваў медыцынскую дзейнасць і прыродазнаўчыя веды», уяўляецца малаверагодным.

Здаюцца спрэчнымі спробы некаторых аўтараў спасылацца на прадмовы Ф. Скарыны да старазапаветных кніг, каб даказаць, быццам той прыраўноўваў урачэбную дзейнасць да... набожнасці. Што ж прыводзіцца ў якасці аргумента да гэтых тээісаў? Аказваецца, прадмова да «Книги Судей», у якой Ф. Скарына пісаў: «Всегда каемся грехов своих, то посылает господь бог пастырей и докторов, они же научают нас противитися бесовским покусом».

Тут слова доктар, відавочна, асучасніваецца. Справа ў тым, што ў беларускіх крыніцах XVI стагоддзя дактарамі называлі не ўрачоў, а свяшчэннаслужыцеляў (ад лацінскага «vir doctus» — «учоны муж»). Ды і які ўрач лечыць «бесовские покусы», гэта значыць спакусы? Гэта ж, у тагачасным разуменні, кампетэнцыі свяшчэнніка, а не лекара. Менавіта ў сувязі з гэтай цытатай А. Фларойскі пісаў яшчэ ў 1940 годзе: «Нам уяўляецца, што слова ДОКТОР тут трэба разумець у агульным сэнсе вучонага (параўнай «доктореве а люди веченые» ў проціпастаўленні «всякому человеку простому и посполитому»), а не спецыяльна ўрача, не дарэмна ж Скарына і ў адносінах самога сябе, і евангеліста Лукі не абмяжоўваецца словам доктар, але заўсёды дадае «в лекарских науках».

На той падставе, што ў прадмове да кнігі «Иова» Скарына пісаў, што кніга ёсць «лекарство душевное», а з яе людзі могуць пазнаць, што «наивысшая мудрость размышление смерти и познание самого себя», іншы раз робіцца наступны смелы вывад: «Як вядома, урачы эпохі Адраджэння ў барацьбе за практычныя веды і супраць схаластыкі прапанавалі тэзіс старажытных аб пазнанні перш за ўсё самога сябе, значыць, Скарына быў адным з першых, хто выступіў у тую эпоху за практычныя веды ў медыцыне, за вывучэнне жывога чалавека і прычыны яго смерці».

Як можна рабіць падобныя вывады без супастаўлення з меркаваннем сучаснікаў Ф. Скарыны, толькі з прыведзеных выказванняў першадрукара, для нас застаецца загадкай.

Іншы раз думаюць, быццам на вядомай гравюры з аднаго выдання Скарыны з яго адлюстраваннем інтэр'ер пакоя, у якім ён знаходзіцца, напоўнены дэталямі, якія характарызуюць яго як урача, вучонага, кнігавыдаўца.

Якія ж гэта дэталі? Аказваецца, кнігі, запаленая свечка, пчала, батанізіркі, пасудзіна з гліны, фігуры мядзведзяў з «вагамі мудрасці», лісце дуба, пясочны гадзіннік, нябесны глобус свету — «усе гэтыя прадметы сімвалізуюць інтарэсы Скарыны ў галіне прыродазнаўства, медыцыны і лякарстваззнаўства».

Падобныя доказы наўрад ці могуць пацвердзіць думку, быццам бы Ф. Скарына быў «адным з першых, хто выступіў за практычныя веды ў медыцыне і за вывучэнне жывога чалавека і прычыны яго смерці».

Мы больш схільны згадзіцца з Н. Алексютовічам, які яшчэ трыццаць гадоў таму назад сказаў: «На жаль, у нас няма нічога, што магло б праліць святло на яго непрыродазнаўчыя погляды. Ці былі ў Скарыны працы ў гэтай галіне, для нас застаецца невядомым. Несумненна адно: у ім ніколі не гінуў вучоны-прыродазнавец, які змагаўся з яго рэлігійнымі забабонамі».

І паколькі з часу сказанага гэтым даследчыкам не выяўлены новыя крыніцы, якія б пралівалі святло на медыка-біялагічныя погляды Ф. Скарыны, нам застаецца спадзявацца на іх выяўленне ў далейшым.

**Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ.**

*ЗНАХОДКІ ПАДЧАС РАСКОПАК*

# КАФЛЯ СТАРАЖЫТНАГА ГРОДНА

У сярэднія вякі Гродна лічыўся буйным горадам. Насельніцтва яго ў XVI стагоддзі складала каля 10 тысяч чалавек. Па перапісу 1560 года, у Гродне было 36 вуліц і завулкаў і ажно 716 пляцаў. Да гэтага часу горад ужо меў трывалыя традыцыі эканамічнага і культурнага жыцця, аб чым сведчаць пісьмовыя крыніцы і матэрыялы археалагічных раскопак. Месцазнаходжанне на буйной рачной магістралі каля самай мяжы ўсходнеславянскіх зямель спрыяла развіццю тут унутранага і міжнароднага гандлю. Ужо ў 1391 годзе другім у Беларусі (пасля Брэста) горад атрымаў магдэбургскае права, якое і пазней нязменна пацвярджалася цэнтральнай уладай. Гэта таксама ўскоснае сведчанне аб узроўні развіцця і месцы, якое горад займаў у дзяржаве. Мы пакуль мала ведаем аб рамесніцкай і гандлёвай дзейнасці тагачасных жыхароў Гродна, у тым ліку і аб кафлярскай справе. Важнейшай крыніцай па вывучэнню гродзенскай кафлі з'яўляюцца матэрыялы археалагічных раскопак у комплексе з дакументамі XVI—XVII стагоддзяў. Адна з самых цікавых пісьмовых крыніц «Пісцовая кніга Гродзенскай эканоміі» (складзеная ў 1560 годзе) упамінае ў Старым замку больш за тры дзесяткі кафляных печаў. Кафля апісваецца як зялёная паліваная. Яшчэ ў вопісе называюцца «печы белыя», «печы кафлі белай». У адным з будынкаў была печ «віленскай работы», але чым яна адрозніваецца ад іншых, можна толькі здагадвацца. Вопіс дае звесткі, праўда, вельмі скупыя, і адносна канструкцыі печак. Называецца печ з зялёнай кафлі на чатырох слупках з арэхавага дрэва, печы зялёнай кафлі з комінам, дзверцы да коміна печы, белая круглая печ, печ з устаўленым у яе катлом. Зразумела, што ў дамах гродзенскіх гараджан, шляхецкіх і манастырскіх сядзібах, магнацкіх палацах таксама меліся печы, не горшыя за скарбовыя на запушчаным ужо ў той час Старым замку.

Археалагічныя раскопкі на тэрыторыі Гродна вяліся на Старым замку, падворку былога манастыра базыльянак, наваколлі царквы Барыса і Глеба, гарадскіх пасадах.

Самыя старажытныя знаходкі кафлі з Гродна датуюцца канцом XV—XVI стагоддзямі. Гэта так званая гаршковая кафля з круглым або прамавугольным вусцем. Самая ранняя каробковая, больш нам звыклая, кафля з Гродна (другая палова XVI стагоддзя) аздоблена васьміпялёсткавай кветкай, выкананай у тэхніцы паглыбленага рэльефу. Да таго ж часу належаць яшчэ некалькі варыянтаў кафлі, самы цікавы той, што ўпрыгожаны выявай караля ў профіль з сімваламі ўлады ў руках.

Больш за ўсё знойдзена кафлі, зробленай у канцы XVI — першай палове XVII стагоддзяў. Вялікая колькасць знаходак, багацце і распрацаванасць арнаментыкі сведчаць аб сапраўдным росквіце кафлярскай справы ў гэты час. Сярод знаходак кафліны ад розных частак печы: сцянныя, гзымсавыя, пояскавыя, кафля-каронка. Найбольш распаўсюджаны тып арнаменту — раслінны. Шырока ўжываўся раслінны ўзор, пабудаваны па прынцыпу сіметрыі: у цэнтры вонкавай пласціны размешчана разетка, ад якой да кутоў цягнуцца стылізаваныя галіны. Характэрныя тыпы арнаменту — разнастайныя кветкі, сцябліны, лісты аканту. Знойдзена таксама кафля з геаметрычным арнаментам — ромбы. Да рэдкіх знаходак належаць фрагменты кафлі з выявай вершніка з шабляй, фрагменты кафлі з геральдычным арнаментам, кафля-макаўка печы. На адной гзымсавай кафліне сабраны выявы вазы з кветкай, фантастычных жывёл і лісцяў аканту. Да другой паловы XVII стагоддзя належыць кафля з так званым «дывановым арнаментам», калі закончаны малюнак выкладаўся з чатырох ці болей кафлін.

Самыя багатыя пакоі ў каралеўскім палацы аздабляліся шыкоўнымі печамі з паліхромнай кафлі. На іх сярод іншых выява букета ў вазе і сцэна палявання з сабакамі на аленя. З'яўг[illegible] такой сцэны хутчэй за ўсё не выпадков[illegible]ядома, што старажытныя жыхары Гродна былі заўзятымі паляўнічымі, і прыгажун алень красаваўся нават у гербе горада. Шыкоўныя высокамастацкія печы існавалі не толькі ў замк[illegible]а і ў горадзе. Падчас рэстаўрацыйных ра[illegible]на вуліцы Замкавай у сутарэнні аднаго з д[illegible]оў знойдзена цэлая кафля-каронка з выявай воіна, які адпачывае. Аналагаў гэтай кафлі на тэрыторыі Літвы і Беларусі пакуль няма.

Усе знаходкі кафлі сведчаць, што ў Гродне — горадзе з даўнімі рамеснымі традыцыямі — у другой палове XVI і XVII стагоддзях склалася самабытная школа кафлярства, якая працавала на высокім прафесійным узроўні. Гродзенскія майстры амаль не ўступалі па ўзроўню майстэрства сваім калегам са сталіцы — Вільні. Раскопкі ў горадзе працягваюцца, і хто ведае, якія яшчэ знаходкі нас чакаюць.

**А. ТРУСАЎ, А. КРАЎЦЭВІЧ,**
**археолагі.**

**НА ЗДЫМКУ:** кафля зялёнай палівы з дывановым арнаментам.

**Фота В. КАРБОЎСКАГА.**



**На ўроку гісторыі настаўнік расказваў аб даўнім сялянскім паўстанні, а ў Віталя нараджаўся сюжэт яго будучай скульптурнай кампазіцыі. Зрокава кампанаваў ён у адзіны сюжэт рэальныя фігуры. Спяшаючыся ў майстэрню, спрабаваў успомніць дэталі адзення той эпохі, бачаныя ў падручніках, кнігах. Зазірнуў у школьную бібліятэку, на паліцах якой ёсць нямала спецыяльных выданняў па гісторыі мастацтва, жывапісу. Нічога дзіўнага: гэта ж бібліятэка Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчаму мастацтву імя І. Ахрэмчыка. А юны скульптар з гарадскога пасёлка Жалудок Шчучынскага раёна Віталь Панок — адзін з сённяшніх яе выхаванцаў. У гэтыя дні ён ужо завяршае работу над скульптурнай кампазіцыяй «Сялянскае паўстанне». Побач з ім першыя мукі творчасці перажываюць такія ж, як ён, хлапчукі і дзяўчынкі: у адной майстэрні малююць, у другой — чаруюць з глінай, у трэцяй — пішуць маслам, а ў суседнім корпусе ўладарыць музыка.**

**Фота І. ЮДАША.**



*З народных песень*

## ЛЯЦЕЛА ЗЯЗЮЛЯ

**Ляцела зязюля праз бор, кукуючы,**
**Заплакаў Ясенька, з вячорак ідучы. (2)**

**Прыйшоў ён дадому, не кажа нікому,**
**Кладзецца ён спаці на белай пернаці. (2)**

**Прыйшоў родны брацец, стаў Яся будзіці:**
**— Уставай, родны браце, мы пойдзем касіці. (2)**

**— Не буду ўставаці, не пайду касіці,**
**Бо я не здужаю косанькі насіці.**

**Прыйшоў яго бацька, стаў Яся караці:**
**— Уставай, родны сынку, мы пойдзем араці. (2)**

**— Не буду ўставаці, не пайду араці,**
**Бо я не здужаю на волы гукаці. (2)**

**Прыйшла яго маці, стала наракаці:**
**— Трэба было, сынку, па трох не кахаці. (2)**

**Першая любіла — хустачку зрабіла,**
**Другая любіла — кашульку пашыла. (2)**

**Трэцця любіла — зелейка варыла,**
**А ў нядзелю рана Яся атруціла. (2)**

**— Ото ж табе, сынку, такая заплата:**
**Тры дошкі сасновы — цёмненькая хата. (2)**

**Званы зазванілі на першу гадзіну,**
**Пахавалі Яся праз тую дзяўчыну. (2)**

# спорт

Застаецца толькі пашкадаваць, што цёплае надвор'е ды поўная адсутнасць снегу не дадуць магчымасці правесці чэмпіянат свету па біятлону ў Раўбічах пад Мінскам. Вельмі ж спадзяваліся мы на выступленне ў спаборніцтвах нашых землякоў. А пакуль беларускія біятланісты выступаюць за мяжой і ў іншых рэспубліках.

Асабліва вызначыўся мінчанін Сяргей Булыгін. На пятым этапе розыгрышу Кубка свету ў ФРГ ён перамог у гонцы на 20 кіламетраў.

Па-ранейшаму спадарожнічае поспех савецкім гандбалістам. Наша зборная заняла першае месца на традыцыйным міжнародным турніры «Кубак Балтыкі». У фінале яна перамагла гаспадароў спаборніцтваў каманду ФРГ з лікам 21:16.

Пяць мінскіх армейцаў — А. Каршакевіч, А. Тучкін, А. Свірыдзенка, К. Шараварaў і М. Якімовіч выступалі тут за зборную СССР.

А іх аднаклубнікі гасцілі ў Францыі. У горадзе Нансі беларускія гандбалісты перамаглі мясцовых спартсменаў — 32:19.

Радуюць нас і лёгкаатлеты. Там жа, у Францыі, мінчанін Ігар Лапшын заняў другое месца на міжнародным турніры па трайным скачку. Ды і пятае месца яго зямлячкі Раісы Смяхновай у Японіі ў марафонскім бегу таксама нядрэнны вынік. Бо тут выступалі многія вядомыя спартсменкі свету.

У значна абноўленым саставе будзе выступаць на першынстве краіны па футболу мінскае «Дынама». Калектыў папоўнілі многія выхаванцы беларускага футбола. Дынамаўцы нядаўна правялі падрыхтоўку ў Балгарыі. У Слівене яны згулялі ўнічыю — 2:2 з гаспадарамі.

А гэта паведамленне зацікавіць аматараў шашак. Мінск стаў месцам правядзення традыцыйнага матча дзвюх мацнейшых шашыстак Савецкага Саюза і Нідэрландаў. За дошку селі чэмпіёнка свету мінчанка Зоя Садоўская і бронзавы прызёр апошняга чэмпіянату свету Карэн ван Літ. Матч толькі што пачаўся. Аб яго выніку мы паведамім у наступны раз.

Пасля гэтага спаборніцтва пачнецца міжнародны турнір па шахматах паміж жанчынамі.

Беларуская сталіца гасцінна прыме таксама юных хакеістаў Савецкага Саюза, Чэхаславакіі, Швецыі і Фінляндыі. За нашу каманду будзе гуляць і мінчанін Дзмітрый Старасценка. Калі чытачы атрымаюць гэты нумар газеты, турнір ужо пачнецца.

А хакеісты галоўнай каманды краіны адпраўляюцца на таварыскія сустрэчы ў Швецыю. У зборную СССР уключаны мінчане Ю. Крываxіжа і А. Кавалёў.

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

# НАШ АДРАС:

**МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 164